# Голас Радзімы

№ 25 (2167)
21 чэрвеня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**Звання «Лепшы экспарцёр года» ўдастоены мінскі Дзяржаўны падшыпнікавы завод № 11. Ён стаў адным з пераможцаў у аглядзе-конкурсе, які праводзіцца Гандлёва-прамысловай палатай БССР. Сваю прадукцыю ГПЗ-11 экспартуе ў 50 краін свету. Аб'ём экспартных паставак сёлета павялічыцца ў параўнанні з мінулым на 40 працэнтаў.**

**Цяпер калектыў завода як самастойны ўдзельнік знешнегандлёвай дзейнасці зацікаўлены ў павелічэнні колькасці выпускаемых вырабаў і паляпшэнні іх якасці. Бо толькі летась звышпланавая прадукцыя была пастаўлена ў Францыю, Англію, Іспанію. На выручаную валюту прадпрыемства купляе сучаснае прамысловае абсталяванне і тавары народнага спажывання.**

**НА ЗДЫМКАХ: ход выканання дагавора аб пастаўках абмяркоўваюць начальнік бюро знешніх сувязей Аркадзь ВЫСОЦКІ, інжынер Валерый САНДАЛІНІ, галоўны інжынер прадпрыемства Генадзь НАРКЕВІЧ, прадстаўнікі балгарскіх фірм Апостал ДЗІМІТРАЎ і Дэнча ЧОКАЛАЎ; укладчык-упакоўшчык Зінаіда МЕЛЬНІКАВА і кантралёр Ніна БУЛГАКАВА рыхтуюць чарговую экспартную партыю падшыпнікаў да адпраўкі; пашыраецца геаграфія экспартных паставак завода; інжынер-праграміст Юрый КАНСТАНЦІНАЎ за наладкай новага швейцарскага станка.**

**Фота Ю. ПАЎЛАВА.**









ВІЗІТЫ

## СУСТРЭЧА МІНІСТРАЎ

У Брэсце адбылася рабочая сустрэча міністраў замежных спраў СССР Э. Шэварднадзе і міністра замежных спраў ФРГ Г.-Д. Геншара, якая была прысвечана ў асноўным абмеркаванню ў шырокім плане знешніх аспектаў будаўніцтва нямецкага адзінства.

Абодва міністры канстатавалі, што правядзенне гэтай сустрэчы ў Брэсце мае глыбока сімвалічнае значэнне, якое не толькі нагадвае аб трагічных старонках гісторыі ўзаемаадносін двюх краін, але падкрэслівае іх цвёрдую рашучасць падвесці канчатковую рысу пад мінулым і адкрыць новую главу ў адносінах, пазбаўленых страхаў, адпавядае сапраўднаму добрасуседству і ўзаемавыгаднаму супрацоўніцтву.

Э. Шэварднадзе і Г.-Д. Геншар ахарактарызавалі кантакты між савецкім і заходнегерманскім бакамі на розных узроўнях як вельмі карысныя і пацвердзілі намеры працягваць іх інтэнсіўна і ў канструктыўным духу.

Э. Шэварднадзе і Г.-Д. Геншар усклалі вянкі да Вечнага агню ў Брэсцкай крэпасці.

ВЫСТАЎКІ

## ПАГАРТАЕМ «Ю. ЭС. НЬЮС»

Канкурыраваць з любым заходнім магазінам прэсы магла нядаўна адна з залаў Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна ў Мінску. Спецыялізаваныя выданні па розных галінах народнай гаспадаркі, навуцы, тэхніцы, дызайну, мастацтву, спорту суседнічалі тут з такімі друкаванымі «гігантамі», як «Ю. Эс. ньюс энд Уорлд рыпорт», «Тайм», «Нувель абсерватэр». І хаця «тоўстыя» часопісы ўсіх капіталістычных краін Еўропы і ЗША, што ляжаць на стэндах, усяго толькі былі экспанатамі адкрытага прагляду замежнай перыёдыкі, якая паступае ў фонды сталічных бібліятэк, мноства назваў прымушае верыць — інфармацыйны «лёд» рушыў.

Але ўсё ж, наладжваючы выстаўку, яе ініцыятары — спецыялісты чатырох вядучых навуковых і тэхнічных бібліятэк рэспублікі — імкнуліся прабіць іншы «лёд». Таму што многія з прадстаўленых часопісаў, якія маюць, дарэчы, немалую вагу ў свеце інфармацыі, мяркуючы па чыстых фармулярах на тытульных аркушах, так і ляжалі на паліцах незапатрабаванымі. Прыцягнуць увагу зацікаўленага кола чытачоў да замежнай перыядыкі, якая маецца ў распараджэнні бібліятэк, імкнуліся ў тыя дні арганізатары прагляду.

ЮНЫ ТАЛЕНТ



«Мы верым у цябе» — такія словы значацца на пасведчанні стыпендыята Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна. Урачыста ўручылі гэты дакумент у дзень апошняга школьнага званка трэцякласніку музычнага ліцэя пры Белдзяржкансерваторыі васьмігадоваму Дзіме МАРГУЛЬЦУ. Ён стаў першым у рэспубліцы ўладальнікам такога пасведчання. «Высока ацэньваючы творчыя здольнасці і імкнучыся падтрымаць юныя таленты, Савецкі дзіцячы фонд імя У. І. Леніна ўзнагароджвае іменной стыпендыяй Дзмітрыя Маргульца»,— гаворыцца ў дакуменце.

— Пяць гадоў было Дзіму, калі яго ўпершыню прывялі да мяне,— расказвае прарэктар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі прафесар Барыс Нічкоў, па класу якога займаецца таленавіты хлопчык.— Я пазаймаўся з ім два месяцы, пасля чаго было прынята рашэнне залічыць Дзіму на вадрыхтоўчае аддзяленне ліцэя. Гэта выключна здольны флейтыст. Нягледзячы на юны ўзрост, толькі сёлета Дзіма паспяхова канцэртаваў у Маскве і Мінску, прымаў удзел у музычнай частцы адкрыцця выстаўкі ФРГ — СССР. Хлопчык сам піша музыку...

НА ЗДЫМКУ: юны флейтыст Дзіма МАРГУЛЕЦ.

ДАБРАЧЫННАЯ АКЦЫЯ



У Беларусь з дабрачыннай акцыяй прыбыла сям'я Ціля Прале з ФРГ. Госці прывезлі медыкаменты на суму 30 тысяч марак, якія перададуць у дар Гомельскай абласной бальніцы. А для малых, якія зведалі на сабе вынікі чарнобыльскай аварыі, прызначаны цацкі, сабраныя заходнегерманскімі дзецьмі.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы ў Мінску. Ціль ПРАЛЕ (у цэнтры) з жонкай Рэнатай і дачкой Ульрыке з прадстаўнікамі Беларускага камітэта абароны міру.

*Перш за ўсё павінны быць разарваны дагаворы між Польшчай і Савецкім Саюзам, якія ставяць нашу краіну ў становішча васалаў. Федэрацыя моладзі, якая змагаецца, лічыць, што Польшча працягвае з'яўляцца дэюрэ гаспадаром усіх усходніх земляў, якія былі замацаваны за ёй па Рыжскаму дагавору. Для нас вельмі важна, што Вярхоўны Савет СССР прызнаў неправамоцнасць пакту Молатава — Рыбентропа, як бы ўзаконіўшага анексію гэтых зямель. Мы лічым, што пытанне аб усходняй граніцы між нашымі дзяржавамі не з'яўляецца да канца ўрэгуляваным. Аднак вырашацца яно павінна, на наш погляд, не ўрадамі Польшчы і Савецкага Саюза, а вольнымі парламентамі Польшчы і Беларусі, Украіны, прыбалтыйскіх дзяржаў, якія мяжуюць з ёй. Мы падтрымліваем імкненне грамадзян гэтых рэспублік да поўнай незалежнасці і самастойнасці.*

*Мы падтрымліваем ідэю стварэння канфедэрацыі Польшчы, Украіны, Беларусі і прыбалтыйскіх рэспублік, а таксама, магчыма, Славакіі і Румыніі, выказаную ў свой час Пілсудскім. На наш погляд, гэта павінна быць свасаблівая дзяржава «ад мора да мора». Толькі такім чынам краіны Усходняй Еўропы змогуць стварыць моцную палітычную структуру, з якой прыйдзецца лічыцца як Маскве, так і Берліну.*

*(Марыуш РОМАН, лідэр Федэрацыі моладзі Польшчы, якая змагаецца).*

У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ БССР

## ПРЫНЯТА ЗАЯВА

Вярхоўны Савет БССР прыняў заяву «Да падзей у рэспубліках Закаўказзя і Сярэдняй Азіі». Яна была апублікавана ў рэспубліканскім друку і накіравана Прэзідэнту СССР, Вярхоўнаму Савету СССР, Савету Міністраў СССР, міністру абароны СССР, міністру ўнутраных спраў СССР.

У прынятай заяве гаворыцца:

У сувязі з абвастрэннем міжнацыянальных адносін у Закаўказзі і некаторых іншых рэгіёнах краіны з Беларускай ССР у раёны экстрэмальнай сітуацыі накіроўваюцца супрацоўнікі органаў унутраных спраў, слухачы і курсанты школ міліцыі, ваеннаслужачыя ўнутраных войск. Недахоп работнікаў міліцыі абвастрае і без таго цяжкае становішча ў барацьбе са злачыннасцю на тэрыторыі рэспублікі.

У адрас Вярхоўнага Савета Беларускай ССР паступаюць шматлікія пісьмы і звароты жыхароў рэспублікі, у якіх яны выказваюць абгрунтаваныя трывогу і непакой за жыццё і здароўе сваіх родных і блізкіх, якія знаходзяцца па абавязку службы за межамі Беларускай ССР, і патрабуюць іх вяртання.

Уцягнуты ў мясцовыя канфлікты ваеннаслужачыя і члены іх сем'яў.

Кіруючыся воляй беларускага народа, Вярхоўны Савет Беларускай ССР патрабуе неадкладнага вяртання супрацоўнікаў органаў унутраных спраў, слухачоў і курсантаў школ міліцыі, а таксама ваеннаслужачых унутраных войск. Лічым, што ў далейшым іх накіраванне ў іншыя рэгіёны павінна ажыццяўляцца толькі па ўзаемнай згодзе суверэнных рэспублік.

Вярхоўны Савет БССР звяртаецца да Прэзідэнта СССР, Вярхоўнага Савета СССР і ўрада СССР з настойлівай просьбай запатрабаваць ад вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і кіравання Армянскай ССР, Азербайджанскай ССР, Кіргізскай ССР і Узбекскай ССР прыняць меры па спыненню насілля, аднаўленню правапарадку на сваёй тэрыторыі ўласнымі сіламі.

ВАКОЛ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КАНФЛІКТАЎ

## ДЗЯЛЕННЕ НЕДЗЯЛІМАГА: ШТО Ў АСТАТКУ?

Ні адна з самых сур'ёзных нашых праблем, уключаючы эканамічны крызіс і крызіс ідэалогіі, не з'яўляецца такой небяспечнай, як нацыянальныя канфлікты, што абвастрыліся сёння. Пагроза дэзінтэграцыі, якая азмрочвае гарызонты вялікай дзяржавы, усё з большай настойлівасцю пабуджае да непрадузятай ацэнкі прынцыпаў, на якіх заснавана яе тэрытарыяльная структура.

На першы погляд, гэтая структура вызначаецца вялікай стройнасцю і логікай кампазіцыі. СССР уяўляе сабой аб'яднанне дзяржаў, утвораных па нацыянальна-тэрытарыяльнай прыкмеце. Больш ста нацый і народнасцей нашай краіны размеркаваны па 15 саюзных і 20 аўтаномных рэспубліках, а таксама 8 аўтаномных абласцях і 10 аўтаномных акругах.

Здавалася б, такая сістэма, якая забяспечвае «адзінства ў разнастайнасці», цалкам адпавядае інтарэсам, калі не ўсіх, то па крайняй меры больш ці менш буйных народаў краіны. Практыка паказвае, аднак, што тэрытарыяльная структура пры ўсім жаданні не можа быць пабудавана гэтак жа дакладна, як, напрыклад, перыядычная сістэма элементаў Мендзялеева. Любое ж скажэнне ці несуразмернасць непазбежна выклікаюць спрэчкі і канфлікты. Дастаткова было надысці палітычнай адлізе, каб нацыянальныя супярэчнасці, што дзесяцігоддзямі існавалі падспудна ці штучна заганяліся ўнутр, выступілі з-пад абломкаў таталітарнага лёду на паверхню і з'явіліся ва ўсім сваім драматычным выглядзе.

Варта мець на ўвазе, што нацыянальныя групы ў большасці выпадкаў не пражываюць на тэрыторыі краіны кампактна. У выніку працяглага гістарычнага працэсу, у прыватнасці шматлікіх міграцый, насельніцтва моцна перамешана. У наяўнасці — этнічная цераспалосіца. Пры гэтым многанацыянальнасць выяўляецца не толькі на ўзроўні рэгіёнаў, абласцей ці населеных пунктаў, але і, так сказаць, на ўзроўні асобных індывідуумаў, бо значная частка насельніцтва — дзеці змешаных шлюбаў. Пры атрыманні пашпарта яны павінны выбіраць між нацыянальнасцю бацькі і маці.

У існуючых умовах у многіх рэгіёнах правядзенне межаў з улікам нацыянальнага складу жыхароў — задача не менш «простая», чым, скажам, раздзяленне паветра на кісларод, вадарод і азот. Яркі прыклад таму — праблема Нагорнага Карабаха, анклава з пераважна армянскім насельніцтвам, які знаходзіцца ўнутры тэрыторыі Азербайджанскай ССР.

Сумненні і незадаволенасць выклікае і адрозненне ў статусе між нацыянальна-тэрытарыяльнымі ўтварэннямі. Так, таджыкі ці туркмены маюць свае саюзныя рэспублікі, а татары ці башкіры — толькі аўтаномныя, хаця другія нічуць не ўступаюць першым ні ў эканамічным, ні ў культурным развіцці. Тлумачаць гэта тым, што статус саюзнай рэспублікі абавязкова прадугледжвае наяўнасць у тэрыторыі знешніх межаў, але такое тлумачэнне задавальняе далёка не ўсіх.

І, наадварот, раўназначнымі ў дзяржаўнай іерархічнай структуры з'яўляюцца такія рэспублікі, як Расійская федэрацыя (плошча 17 075 тысяч квадратных кіламетраў, насельніцтва 145 мільёнаў чалавек) і Эстонская ССР (плошча 45 тысяч квадратных кіламетраў, насельніцтва 1,6 мільёна чалавек). А вось, напрыклад, пяцімільённы Ленінград — адзін з буйнейшых і багацейшых у культурных і эканамічных адносінах гарадоў свету — мае ў адрозненне ад сталіц саюзных рэспублік усяго толькі сціплы статус абласнога цэнтра.

Дзяленне «па сартах» закранае інтарэсы не толькі цэлых народаў, але і асобных людзей. Так, адных прынята прылічваць да «карэннага насельніцтва» тых ці іншых рэспублік, а другіх (такіх налічваецца шэсцьдзесят з лішнім мільёнаў) адносіць да «грамадзян, якія жывуць за межамі сваіх дзяржаўных утварэнняў». Апошніх нацыяналісты нярэдка з пагардай называюць «мігрантамі», «акупантамі» і «іншародцамі» і спрабуюць ушчамляць у правах.

Некаторыя ж народы сваіх дзяржаўных утварэнняў не маюць зусім. Гэта не толькі схільныя да качавога жыцця цыганы, але і, напрыклад, крымскія татары і немцы, насільна пераселеныя сталінскім рэжымам з месцаў традыцыйнага пражывання.

Сітуацыя ўскладняецца тым, што ў шэрагу выпадкаў «карэннае насельніцтва» не складае ў сваіх дзяржаўных утварэннях большасці. Так, з 16,2 мільёна жыхароў Казахскай ССР толькі 5,3 мільёна — казахі; з 535 тысяч жыхароў Абхазскай АССР толькі 83 тысячы — абхазы. Ці прыклад іншы. Яўрэям — па прынцыпу «не суй носа не ў сваё проса» — Сталіным была выдзелена спецыяльная аўтаномная вобласць на Далёкім Усходзе, хаця пераважная іх большасць там ніколі не жыла і, па ўсім відаць, жыць не збіраецца.

Ці прадугледжвае перабудова перакройку гэтай мудрагеліста пашытай коўдры з кавалкаў? Цяпер выказваюцца розныя меркаванні аб пераглядзе тэрытарыяльнага дзялення СССР на больш разумных пачатках, напрыклад, па геаграфічнаму і эканамічнаму прынцыпу. У той жа час гучаць зусім абгрунтаваныя перасцярогі: ці не прывядзе падобная рэформа да яшчэ большага выбуху нацыяналістычных эмоцый? Але, з другога боку, ніколі не вядома, што лепш садзейнічае стабільнасці — штучнае падтрыманне старога статус-кво ці рашучае правядзенне наспеўшых пераўтварэнняў? Так ці інакш, у эпоху публічнасці закрытых для абмеркавання тэм няма, і значыць, дыскусія напэўна будзе працягвацца.



Вельмі хутка ўжо адчыніць свае дзверы для пасажыраў новы аэрадромны комплекс «Мінск-2». Па сутнасці ён ужо дзейнічае некалькі гадоў, але ўмовы там, нязручныя для пасажыраў. Самі ж капітальныя пабудовы аэравакзала, на жаль, набылі сумную славу сапрўднага даўгабуда. Але, здаецца, блізіцца фініш...
Новы аэрапорт «Мінск-2», яго ўзлётна-пасадачная паласа будуць адпавядаць міжнародным стандартам. Тут змогуць прымаць машыны любога класа.
Ужо паспяхова адбыўся пробны рэйс аэробуса «ІЛ-86».
НА ЗДЫМКАХ: аэробус «ІЛ-86», які ўпершыню здзейсніў пасадку ў аэрапорце «Мінск-2». Сродкі, вырučаныя ад гэтага рэйса, былі пераведзены ў фонд Чарнобыля; экіпаж самалёта, які здзейсніў пробны рэйс «Масква — Мінск».



## ЯК ПЕРАМАГЧЫ ІНФЛЯЦЫЮ

# РАЗДЗЯРЖАЎЛЕННЕ ДЗЯРЖАВЫ

«Дзяржава — гэта я», — гаварыў «кароль-сонца» Людовік XIV. «Дзяржава — гэта мы ўсе», — прагучала на заранку Савецкай улады. Карыфеі сацыялістычнага рэалізму ў самазабыцці заклікалі «замяніць шырокім словам «наша» слоўца вузкае «маё». Слоў, сапраўды, замянілі нямала, але ці змянілася тое, што за імі стаіць? Лінгвістычныя трансфармацыі не заўсёды азначаюць перамены ў рэальным жыцці.

Але калі «спачатку было слова», перш за ўсё — пра словы. Адкуль паходзіць слова «дзяржава» ў рускай мове? Уладзімір Даль суадносіць яго са словам «государь» — «всякий светский владыка, верховный глава страны, владетельная особа: император, царь, король, владетельный герцог или князь». Адпаведна дзяржава, паводле Даля, — «царство, империя, королевство, земля, страна под управлением государя» ці «государствование, власть, сан и управление государя». Узяўшы гэта на заметку, прыставім да слова «государство» эпітэт «общенародное». Сэнс, як здаецца, адразу ж карэнным чынам мяняецца, і нечакана ўзнікае зусім новае паняцце.

Вяртаючыся ад слоў да рэаліяў, звернем, аднак, увагу вось на што: ніводзін імператар, цар, кароль — нават «кароль-сонца» — не валодаў столькім, колькі мае Савецкая дзяржава. Гэтай дзяржаве належыць усё ці амаль усё: зямля і нетры, лясы і воды, буйныя заводы і майстэрні, магазіны і бальніцы, сродкі масавай інфармацыі і ўстановы культуры.

Дзяржава да самага апошняга моманту была галоўным манапалістам у вялікай краіне. Манаполію гэтую з поўным правам можна назваць транснацыянальнай, улічваючы многанацыянальны састаў СССР.

Нават чалавек — «вінцік», паводле любімага сталінскага вызначэння, — зрабіўся неад'емнай прыналежнасцю дзяржаўнай машыны. Нараджаецца ён у дзяржаўным радзільным доме і, памёршы, вымушаны карыстацца паслугамі дзяржаўнага камбіната рытуальнага абслугоўвання. Сістэма прапіскі прывязвае яго да пэўнага месца жыхарства, кватэра ці пакой таксама часцей за ўсё належаць дзяржаве. Дзяржава ж дае яму адукацыю, работу, арганізуе адпачынак, забяспечвае медыцынскае абслугоўванне, выплачвае пенсію ў старасці... У якія дзверы ні пастукай, у якое акенца ні зазірні — усюды дзяржава, усёпранікальная і ўсеўладная. Нават арганізацыі, якія называюцца грамадскімі, — і тыя, па сутнасці справы, у яе руках. Грамадскі стутус для іх — часта проста «дах».

Падобная сітуацыя выклікала да жыцця шырока распаўсюджаную ілюзію: дзяржава нас корміць і поіць, апранае і абувае, мілуе і песціць. За гэтую «бацькоўскую любоў» мы прывыклі выказваць ёй сардэчную падзяку. Людзям часта няўцям, што на самай справе ў дзяржавы няма іншых багацяў, акрамя тых, што ствараюць сваёй працай яе грамадзяне. Дзяржава сама не вырабляе матэрыяльных каштоўнасцей, а толькі займаецца іх размеркаваннем і пераразмеркаваннем, пры гэтым ільвіную долю прысвойвае сабе.

Трэба выразна ўсведамляць, што большасць дзяржаўных інстытутаў, арганізацый, прадпрыемстваў стратныя. Практычна ніякіх даходаў не прыносяць, напрыклад, узброеныя сілы, органы аховы грамадскага парадку, суды, школы, сістэма аховы здароўя. Гэта зрэшты, зусім натуральна. Значна менш нармальна тое, што стратная значная частка заводаў, фабрык, саўгасаў, якія належаць дзяржаве. Там, дзе прыватнік-капіталіст даўно б ужо збанкрупіўся, дзяржава пастаянна знаходзіць магчымасці, каб залатаць дзіркі ў фінансавым балансе.

Справа тлумачыцца проста. Дзяржава мае ў сваім распараджэнні унікальны сродак вытворчасці, якім не можа валодаць (па крайняй меры, на законных падставах) ні адна прыватная асоба. Гэты сродак вытворчасці — друкарскі станок, які вырабляе грошы.

Калі ў дзяржавы не хапае сродкаў, каб утрымліваць сваю гаспадарку, пакрываць страты, выплачваць зарплату арміі бюракратаў і гультаёў, якая ўсё разрастаецца, станок уключаецца, і купюры друкуюцца ў неабходнай колькасці. Аб прычынах інфляцыі сказана і напісана многа, але вось гэта — галоўная. Грошы, што выпускаюцца такім чынам у абарачэнне, не забяспечваюцца ніякай рэальнай прадукцыяй. Адпаведна, чым больш выпускаецца грошай, тым менш тавараў становіцца на паліцах магазінаў. Пакупная здольнасць грошай рэзка падае, і ў канчатковым выніку яны пачынаюць каштаваць менш, чым папера і друкарская фарба, што ідуць на іх выраб.

Як спыніць гэты разбуральны працэс? Лякарства тут падказваецца самой хваробай. Каб затармазіць інфляцыю, неабходна скараціць дзяржаўныя расходы. А каб скараціць дзяржаўныя расходы — скараціць саму дзяржаву.

На практыцы гэта азначае паменшыць колькасць работнікаў, якім дзяржава выплачвае зарплату. Дэмантаж значнай часткі кіраўніцкага апарату, ліквідацыя непрадукцыйных і бескарысных бюракратычных устаноў. Адмова ад шэрагу выконваемых сёння функцый на карысць грамадскіх ці кааператыўных аб'яднанняў грамадзян ці прыватных асоб. І, нарэшце, ліквідацыю ці продаж (здачу ў арэнду) усім, хто пажадае іх купіць (арандаваць), стратных прамысловых, сельскагаспадарчых і транспартных прадпрыемстваў. Іншымі словамі, размова ідзе аб раздзяржаўленні краіны.

Дзяржава павінна будзе пакінуць у сваіх руках толькі тое, што немагчыма перадаць групам асоб ці асобным людзям. Абарону. Ахову правапарадку. Знешнія зносіны. Сістэму сацыяльнага забеспячэння. Але і гэтыя арганізмы могуць быць скарочаны да палітычна і эканамічна разумных межаў.

Неабходнасць выканання дзяржавай тых ці іншых відаў грамадска карыснай дзейнасці ўжо становіцца прадметам дыскусій. Узяць, напрыклад, «дзяржаўныя клопаты аб падрастаючым пакаленні», якія ствараюць часам выгляд дабрачыннасці і дабрадзейнасці кіруючых структур. На самай справе гэты клопат магчымы толькі таму, што дзяржава збірае падаткі (з абароту, з насельніцтва і інш.) і расходуе іх, у прыватнасці, на ўтрыманне і датацыі школам, бальніцам, яслям, дзіцячым садам і піянерлагерам. Калі б суму падаткаў зменшыць, адпаведна павялічыліся б даходы грамадзян, і, такім чынам, кожны з іх мог бы сам паклапаціцца аб сваіх дзецях. Аднак, зразумела, дзяржава пакінула б за сабой забеспячэнне ўсім неабходным сірот, дзяцей з бедных сем'яў і маленькіх інвалідаў.

Раздзяржаўленне дзяржавы, апрача ўсяго іншага, павінна выклікаць рэзкае павышэнне асабістай ініцыятывы грамадзян. Кожны стане «кавалём свайго шчасця», перастаўшы адчуваць сябе ўтрыманцам ці ахвярай ураўнілаўкі. Разняволіцца—на карысць усяго грамадства — творчая ініцыятыва людзей. Скінуўшы баласт лішніх распарадчых функцый, цяжкі груз неўласцівых для яе вытворча-эканамічных задач, узмоцніцца і зробіцца больш мабільнай і сама дзяржаўная машына. «Не чалавек для дзяржавы, а дзяржава для чалавека», — будзе напісана на ёй.

І, без сумнення, перастане працаваць на поўных абаротах праслаўуты друкарскі станок, што выпускае масавымі тыражамі грошы, на якія нічога нельга купіць.

**Уладзімір РЭЗНІЧЭНКА.**

## НЕ ЗАЙЗДРОСЦЕ ПАЖАРНАМУ

**Гутарка нашага карэспандэнта Яўгена ТУРАЙКЕВІЧА з начальнікам Упраўлення пажарнай аховы Міністэрства ўнутраных спраў БССР Валерыем АСТАПАВЫМ.**

# ГАРЫМ СІНІМ ПОЛЫМЕМ

*— Валерый Пятровіч! Нядаўна трапіла на вочы такая кароткая даведка: за мінулы год у краіне адбылося 157 тысяч пажараў. У агні загінула 9 тысяч чалавек. Матэрыяльныя страты склалі 450 мільёнаў рублёў. Гэта па краіне. Можа, у Беларусі становішча іншае: пажары здараюцца не так ужо і часта, ды і са стратамі, як кажуць, цярпець можна?*

— На жаль, павінен вас расчараваць. Прыведзеную вамі даведку мне таксама давялося бачыць у нашых сур'ёзных выданнях. Але яны, мякка кажучы, яўна занізілі факты. Вазьміце такую краіну, як ЗША. Там штогод матэрыяльныя страты складаюць 4—5 мільярдаў долараў.

Не вельмі добра ідуць справы з процілажарнай бяспекай і ў нас на Беларусі. Летась здарылася 6 230 пажараў. Пры гэтым загінула 462 чалавекі, матэрыяльныя страты таксама вялікія: 14,6 мільёна рублёў.

*— А каму гэта патрэбна — даваць яўна заніжаныя лічбы?*

— Многім. Агульнанародная ўласнасць парадзіла і агульнанародную адказнасць. А яе якраз вельмі часта зусім няма. І сёння, калі на якім-небудзь прадпрыемстве здарыўся пажар, то ўсімі праўдамі і няпраўдамі кіраўніцтва стараецца, калі не зусім скрыць сам факт пажару, то даць яўна заніжаныя лічбы матэрыяльных страт. Бяда яшчэ ў адным. Пакуль у нас дзейнічае ведамасная статыстыка, якая не ўлічвае страты ад пажараў на аб'ектах многіх міністэрстваў. Гэта ў лясной гаспадарцы, Міністэрстве абароны і іншых. Калі ўсё падсумаваць, то лічба ўзрасце ў некалькі разоў, яна сёння далёкая ад той, якая фіксуецца афіцыйнай статыстыкай і паказваецца ў сродках масавай інфармацыі.

Вельмі хвалююць нас выпадкі пажараў па віне прадпрыемстваў, якія выпускаюць недабраякасныя вырабы. Напрыклад, мы не заўсёды задумваемся над тым, што тэлевізар, які ёсць цяпер амаль у кожнай сям'і, можа быць не толькі сябрам, але і ворагам. Ад гэтых бытавых прыбораў у нашай краіне адбываюцца тысячы пажараў. Нядаўна ў газеце «Труд» праведзены такі аналіз. Часцей за ўсё здараецца няшчасце там, дзе ўстаноўлены апараты «Радуга», «Рубін», «Тэмп», «Электрон».

Да ліку найбольш надзейных адносяцца тэлевізары беларускіх прадпрыемстваў «Гарызонт» і «Віцязь». Але і па іх віне здараюцца няшчасці. Летась у рэспубліцы зарэгістравана 696 самазагаранняў тэлевізараў. Кожнае трэцяе іх самазагаранне суправаджалася пажарамі, у агні якіх загінула 12 чалавек.

Іншыя бытавыя прыборы таксама прыносяць значны працэнт выпадкаў пажараў. Гэта тычыцца, напрыклад, нявыключаных прасаў. Ці ж вінавата тут гаспадыня? Быццам, так. Але не зусім. Умеюць жа за мяжой рабіць такія прасы, што адпавядаюць супрацьпажарным патрабаванням ва ўсіх выпадках эксплуатацыі. Кожны выраб пазначаны спецыяльным кляймом. Дом ці кватэра там ніколі не загарацца нават тады, калі прас ці іншы бытавы прыбор будзе пакінуты ўключаным гаспадыняй хоць на цэлы дзень.

Нашы прадпрыемствы не толькі не забяспечваюць сваіх пакупнікоў надзейнымі ў супрацьпажарных адносінах бытавымі прыборамі, але пасля самазагаранняў іх не нясуць ніякай адказнасці. Добра, скажам, калі гаспадар паспеў застрахаваць маёмасць.

Вельмі часта прадпрыемствы стараюцца ўтаіць, калі не сам выпадак пажару, то прыменшыць яго вынікі, прынесеныя страты. Так здарылася нядаўна ў Мінску. Загарэлася ЦЭЦ-2. Пасля гэтага прамільгнула паведамленне, што матэрыяльныя страты склалі каля шасці тысяч рублёў. А мы ж добра ведаем іншае. Толькі на ачыстку станцыі метро, якая яшчэ будуецца, ад бруду, што сабраўся ў выніку пажару, на ўстаноўку каналізацыйна-помпавай станцыі, спатрэбілася 100 тысяч рублёў!

(Заканчэнне на 4-й стар.).

*У БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»*

**У канцы мая Беларускае таварыства «Радзіма» прымала сакратара Галоўнага праўлення Федэрацыі рускіх канадцаў, нашу суайчынніцу, беларуску па паходжанні Аляксандру ЮРОЎСКУЮ.**



# ФРК ПРАЦЯГВАЕ РУКУ ДАПАМОГІ

У час наведання рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» Аляксандра Юроўская расказала аб мэце свайго прыезду ў Беларусь. ФРК праводзіць кампанію пад дэвізам — «Дзецям Чарнобыля». Ужо сабрана больш за 30 тысяч долараў. Што на іх купіць? Якія лекі і прэпараты найбольш патрэбны ахвярам атамнай катастрофы? На гэтыя пытанні А. Юроўская атрымала дакладныя адказы ў Аксакаўшчыне — у клініцы Інстытута радыяцыйнай медыцыны, дзе праходзяць абследаванне і курс лячэння дзеці з заражаных раёнаў.

— З гутаркі з галоўным урачом клінікі,— сказала наша суайчынніца,— мне стала ясна, што маем рабіць далей. Выявілася, што найпершая патрэба ўжо нават не ў аднаразовых стэрыльных шпрыцах, а ў вітамінах, якія спрыяюць вываду з арганізма радыенуклідаў, у прыватнасці, стронцыю. Ведаючы, колькі такіх вітамінаў патрэбна на поўны курс лячэння аднаго хворага, мы можам з найбольшай карысцю выдаткаваць сабраныя сродкі.

На пытанне, як праходзіць кампанія «Дзецям Чарнобыля», А. Юроўская адказала:

— Спачуванне і спагада, шчырае жаданне дапамагчы свайму народу — гэтыя пачуцці і памкненні заўсёды былі ўласцівыя беларусам, украінцам, рускім — усім, хто ўваходзіць у нашу арганізацыю. Так было ў гады Вялікай Айчыннай вайны, калі, аб'яднаныя ў камітэты дапамогі Радзіме, мы збіралі ахвяраванні для фронта і тыла, для агульнай перамогі. Так было ў нядаўнія трагічныя дні землетрасення ў Арменіі (тады мы сабралі 53 тысячы долараў). Так ёсць і зараз, калі мы не можам спакойна думаць пра ахвяры чарнобыльскай катастрофы. Тым больш, што гэта няшчасце здарылася на нашай зямлі, з нашым народам. На зварот Галоўнага праўлення ФРК людзі адгукнуліся ад чыстага сэрца. Яны ахвяруюць усё, што могуць. А трэба ўлічыць, што гэта звычайныя людзі працы, не надта заможныя. За адзін толькі вечар у Таронта на банкеце з нагоды свята 8 Сакавіка мы сабралі 8 тысяч долараў. Людзі давалі ў фонд Чарнобыля максімум таго, што маглі.

На гэтым жа банкеце 1 тысячу долараў ахвяравалі члены хору пенсіянераў «Родная песня». Ведаеце, як яны атрымалі гэтую тысячу? Падлічыўшы, што з іх мізэрных пенсій многа не назбіраеш, жанчыны арганізавалі «дзень варэнікаў». Семнаццаць жанчын цэлы суботні дзень рабілі варэнікі і прадавалі іх. І ў выніку ахвяравалі заробленую тысячу долараў.

Аляксандра Юроўская расказала, што пасля вяртання з Беларусі мае намер выступіць перад землякамі на сходах, звярнуцца да іх праз газету «Вестник», якую выдае ФРК, каб кампанія «Дзецям Чарнобыля» працягвалася больш энергічна, бо тут чакаюць дапамогі і будуць рады любому дару.

Федэрацыя рускіх канадцаў, большасць у якой складаюць беларусы, сёлета адзначае 60 гадоў з дня свайго заснавання. У кастрычніку адбудзецца чарговы з'езд гэтай арганізацыі нашых суайчыннікаў, якія, хаця і гавораць амаль што выключна па-руску, але памятаюць перадусім Беларусь—сваю Радзіму, бо яны таксама беларусы. І сярод многіх добрых спраў у справаздачы з'езду будзе запісана і гэта, дабрачынная — дапамога дзецям Чарнобыля.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**

# ГАРЫМ СІНІМ ПОЛЫМЕМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

Якія тут яшчэ патрэбны каментарыі.

Лічу, гэта — мядзведжая паслуга. Навошта саміх сябе падманваць. Калі мы будзем заўсёды гаварыць людзям усю праўду аб выніках пажару, гэта прымусіць іх быць больш пільнымі, асцярожнымі, прымусіць задумацца над тым, што мы не маем права рабіць так, каб нашы грошы вылецелі «ў трубу».

***— Валерый Пятровіч, многа гадоў назад я размаўляў з вашым папярэднікам наконт прычын пажараў. Тады гутарка вялася вакол стандартных выпадкаў: дзеці забаўляліся з запалкамі, п'яны заснуў на канапе. І гэтак далей. А зараз у гутарцы з вамі адчуваюцца папрокі ў адрас прадпрыемстваў. Яны ж нічога не запальваюць, хіба ж самі часам гараць?***

— Справа не ў тым, што не запальваюць ці не гараць. Але з кожным годам усё больш і больш «садзейнічаюць» узнікненню пажараў і няшчасных выпадкаў пры іх.

Вазьміце нашу кватэру. Нават малюсенькае загаранне—і мэбля запалала, нібы бензінам аблітая. Раней людзі, нават добра нахапаўшыся дыму, страчвалі прытомнасць, але іх ратавалі. Цяпер жа хопіць двух-трох удыхаў дыму, каб у выпадку пажару памерці. Вось з якіх матэрыялаў вырабляе наша прамысловасць мэблю, дываны...

***— Вы прыводзіце прыклады пажараў, папракаеце прадпрыемствы, якія выпускаюць няякасную прадукцыю і тым самым садзейнічаюць узнікненню пажараў, вырабы, што пры гарэнні выдзяляюць атрутныя таксічныя газы, у выніку чаго гінуць людзі... Складваецца ўражанне, быццам ваша ўпраўленне займаецца толькі статыстыкай?***

— Меркаванне вельмі памылковае. Ні адзін выпадак пажару не застаецца па-за нашым аналізам. Мы прымаем захады, каб не дапусціць лёгкія на загаранне матэрыялы ў вытворчасць. Больш таго, у лабараторыі ўпраўлення мы атрымалі некалькі відаў тканін, у прыватнасці, для мэблі, якія цяжка паддаюцца агню, а калі і загараюцца, то не выдзяляюць таксічных, шкодных для здароўя людзей газаў. Рэкамендуем будаўнікам ужываць фарбы і шпалеры, якія не гараць.

І, вядома, праводзім вялікую прафілактычную работу. Вазьміце прык[illegible]ды свавольства і гульня[illegible] дзяцей з запалкамі, іншы[illegible] матэрыяламі і рэчывамі, што лёгка загараюцца. З-за гэтага яшчэ нядаўна ў Беларусі штогод адбывалася каля 17 працэнтаў пажараў. Літаральна за год-два колька[illegible] няшчасных выпадкаў па в[illegible] дзяцей скарацілася на чатары працэнты. Значыць гутаркі супрацоўнікаў пажарнай аховы, якія праводзяцца ў школах аб правілах пажарнай бяспекі, не праходзяць марна.

Іншая справа, што нас, прафесійных супрацоўнікаў, мала і не заўсёды мы можам трапіць у школу ці дзіцячы сад. А многае ў школах маглі б рабіць і самі настаўнікі. Скажам, вядзе выкладчык фізікі ўрок, расказвае аб электрычнасці, а чаму б яшчэ хвілін пяць-дзесяць не ўдзяліць проціпажарнай бяспецы па свайму прадмету. Праўда, сёння ў школах пачалі праводзіць заняткі, дзе школьнікі вывучаюць правілы пажарнай бяспекі. Але ж яны праводзяцца ў пазаўрочны час, што значна зніжае іх эфектыўнасць.

***— Валерый Пятровіч! Калі зноў звярнуцца да статыстыкі, то за апошні год колькасць пажараў у краіне ўзрасла на 12 працэнтаў. На жаль, тут і наша рэспубліка не выключэнне, няма чым пахваліцца. Ці не звязаны рост пажараў з крызісам эканомікі краіны, зніжэннем узроўню нашага жыцця?***

— Бачу ў гэтым самую цесную ўзаемасувязь. Возьмем забяспечанасць насельніцтва дзіцячымі яслямі ці садамі. Не сакрэт, што і ў горадзе, і ў вёсцы людзі гадамі стаяць у чарзе, каб атрымаць месца ў дашкольнай установе. І, нярэдка, безвыніковa.

Вось і прыходзіцца пакідаць малых адных дома. Што, здараецца, прыводзіць да трагічных выпадкаў. Прывяду толькі адзін прыклад. 18 сакавіка 1989 года жыхарка вёскі Сітніцкі Двор, што на Брэстчыне, Крывулец, пакінула дома адных чацвёра дзяцей, якім было ад года да шасці. Малыя мелі доступ і да запалак, і да газу, і да электрапрыбораў. У выніку здарыўся пажар і яны загінулі.

А вазьміце нашых пенсіянераў. Не хапае дамоў для адзінокіх старых. Дажываюць яны свой век у такіх жа, як і самі, старых хацінах. А тут ужо даўно пара электраправодку мяняць, але ж няма каму. Бо кіраўніцтву калгаса не да старых. І за печчу ж няма належнага нагляду, а ў гэты час і вугалёк на падлогу выпаў — хата загарэлася. Пакуль народ збярэцца, ні хаты, ні старых у жывых няма...

***— У адным з папярэдніх адказаў вы, Валерый Пятровіч, закранулі пытанне грамадскай дапамогі прафесійным пажарным. Правільна заўважылі, што ў школах шмат чаго могуць зрабіць выкладчыкі, каб выхоўваць у вучняў элементарныя правілы проціпажарнай бяспекі. Але мне здаецца, што сёння роля грамадскасці ў дапамозе вам рэзка ўпала. Што здарылася?***

— Вы закранулі балючае пытанне. Нас, прафесіяналаў, у рэспубліцы не хапае. Нічога не зменіцца і ў недалёкай будучыні. Некалькі гадоў назад на кожным прадпрыемстве, у кожнай установе былі створаны і дзейнічалі добраахвотныя пажарныя дружыны, баявыя разлікі. Яны многае рабілі, каб выключыць выпадкі ўзнікнення пажараў, неслі дзяжурствы ў цэхах, на тэрыторыях прадпрыемстваў, сачылі за спраўнасцю электраправодкі, за наяўнасцю сродкаў пажаратушэння...

Але вось нечая «разумная» галава «зверху» адмяніла льготы добраахвотным пажарным дружыннікам. Гэта некалькі дадатковых дзён водпуску, прэміі і іншае. Палічылі, што яны будуць працаваць і без гэтага. І пралічыліся. Будзем гаварыць адкрыта: сёння за «здорава жывеш» ніхто працаваць, грамадскую нагрузку несці не будзе.

На прадпрыемствах, у арганізацыях ніяк не вывесці «вірус» нядбаласці, безгаспадарчасці і безадказнасці. Толькі гэтым можна растлумачыць прычыну таго, што нядаўна згарэў вялікі цэх кандытарскай фабрыкі «Спартак» у Гомелі.

Ці выпадак на Магілёўшчыне, калі ў полымі згарэў склад сельскагаспадарчай тэхнікі, пашкоджаны былі камбайны «Дон». А матэрыяльны ўрон склаў 240 тысяч рублёў.

[illegible]цвёрда перакананы: на к[illegible]ым прадпрыемстве можна належным чынам наладзіць работу дабраахвотных пажарных дружын. І так будзе. Бо цяпер, калі працоўныя калектывы пераходзяць на самафінансаванне, ніхто не д[illegible]ціць выкідваць, як ка-ж[illegible], капейку ў агонь. Вельмі шкада, што пакуль прадпрыемствы не плацяць за работу пажарных па тушэнню пажараў, і сродкі гэтыя, на мой погляд, трэба браць з фондаў заработнай платы ці сацыяльнага развіцця.

***— У пажарныя ідуць па прызванню. Тут няма месца слабым, выпадковым людзям. Ці не прывялі б вы, Валерый Пятровіч, некалькі прыкладаў мужнасці беларускіх пажарных?***

— Прыкладаў многа. Увесь свет ведае подзвіг Васіля Ігнаценкі ў час чарнобыльскай трагедыі. Ордэн Чырвонай Зоркі атрымаў за тушэнне лесу на Гомельшчыне Іван Лапкоўскі... На днях у Мінску нашы пажарныя на будаўнічым аб'екце выратавалі групу рабочых, якіх на даху адрэзаў ад выхаду агонь... Такая наша служба — кожны дзень рабіць подзвіг, пра які нават і двух радкоў часам не знойдзеш у газетах.

***— Якімі б мы, Валерый Пятровіч, аптымістамі ні былі, але пазбавіцца ад пажараў ніяк не зможам. Ва ўсякім выпадку цяпер.***

***Памятаю са школьнай парты: нашы пажарныя, як і армія, маюць усё: індывідуальныя сродкі аховы, першакласную тэхніку... Як на самай справе?***

— Вашы б словы ды богу ў вушы. Так, у параўнанні з іншымі рэспублікамі нам грэх скардзіцца. Нас лічаць у краіне ледзь ці не эталонам, прыязджаюць на семінары, пераймаюць вопыт. Але хіба ж гэта парадак, калі не хапае самага элементарнага: лесвіц, вяровак, касак. Маем устарэлы парк пажарных машын. Пра тэхніку наогул пара падумаць, і не толькі ў маштабах рэспублікі. Пажарныя падраздзяленні нібы тыя пасынкі. Фактычна ні адно прадпрыемства краіны не выпускае тэхніку на ўзроўні сусветных узораў. Што ні вазьмі — уступае замежнай: у ФРГ ці Фінляндыі лесвіцы высоўваюцца на 50—60 метраў, а ў нас на 30, самае большае на 45; адзенне менш надзейнае ў эксплуатацыі; кіслародныя апараты, якія хоць і маюць шэраг пераваг, але ў іх меншы час працы.

Прыходзіцца нешта прыдумваць сваё. Мінскія пажарныя, напрыклад, мадэрнізавалі прыстасаванне для адсмоктвання дыму з памяшканняў, зрабілі пажарны аўтамабіль першай дапамогі.

Не скажу, каб наша прамысловасць не ўмела рабіць добрую тэхніку. Вазьміце аўтамашыны «Урал». Але ж калі зусім нядаўна яны каштавалі 16 тысяч рублёў, то сёння за іх просяць... 60 тысяч!

Дзе ж нам узяць такія грошы?!

Не, не так павінна ставіцца дзяржава да нас, пажарных, нашых патрэб. Хіба гэта наша асабістая справа?.. Справа агульнанародная, вельмі патрэбная.

***— Мне казалі, што ў пажарных падраздзяленнях рэспублікі адбываецца ці то скарачэнне, ці то самазвальненне кадраў: ці не ўнесяце вы тут яснасць?***

— Людзі і на самай справе звальняліся. Цяпер крыху павысілі нам зарплату. І то сёння яна меншая за сярэднюю рабочага любога прадпрыемства. Давайце будзем рэалістамі. Жыць нам становіцца з кожным днём усё даражэй і даражэй. Многім пажарным не стала хапаць грошай, каб пракарміць сям'ю. Няма ў нас ільгот на жыллё, дзіцячыя сады і г. д. І таму, лічу, зусім натуральна, што многія нашы супрацоўнікі, байцы, як хочаце называйце іх, падаліся ў кааператывы. Цяпер з разлікаў па штату 5—6 чалавек некаторыя маюць толькі па 2—3. Так што працаваць прыходзіцца за дваіх. Як бачым, зайздросціць пажарнаму не даводзіцца — быць ім вельмі цяжка.

## ПРОШЛОЕ И НАСТОЯЩЕЕ

# ЧЕСТНО О ВОЙНЕ

**В связи с подготовкой нового 10-томного издания «Отечественная война советского народа» корреспондент АПН беседует с начальником Института военной истории МО СССР, вице-президентом Всемирной ассоциации военных историков Дмитрием ВОЛКОГОНОВЫМ.**

— *В Советском Союзе это будет уже третий многотомный труд по истории минувшей войны. Каков его замысел?*

— В первом издании, которое выходило в 1960—1965 годах, дух сталинизма не был преодолен. Во втором, появившемся в застойные 1973—1982 годы, он в определенной степени даже реанимирован. Наш труд будет концептуально новым. Главную свою задачу видим в том, чтобы честно рассказать о войне.

— *Десталинизация истории в последнее время открыла немало неизвестных страниц войны. Каким, хотя бы в общих чертах, будет содержание многотомника, на чем в первую очередь сосредоточено внимание авторов?*

— Спустя 45 лет после войны едва ли можно говорить о каких-либо неизвестных историкам страницах. О малоизвестных — да. Это самый большой недостаток прошлых изданий—усеченная правда, недомолвки.

Мы хотим сказать не только о том, сколько в целом стоила советскому народу война, но и сколько человеческих жизней потеряно в каждой битве. Рассказать не только о триумфальных операциях, но и о проигранных. Например, о катастрофе под Киевом в августе-сентябре 1941 года, где попали в окружение 465 тысяч советских солдат — четыре армии! О харьковском поражении и о провале операции по освобождению Крыма весной 42-го. Они отражены в литературе, но как бы между прочим, в несколько строк.

Весь первый период войны был для нашей страны катастрофическим, однако долгое время его представляли как период крушения гитлеровских планов блицкрига. Напомню, однако, что фашисты уже на шестой день войны были около Минска, а вскоре подошли к Москве и Ленинграду. Это и был настоящий блицкриг. К декабрю 41-го от наличного состава советских войск первого эшелона осталось лишь восемь процентов. И все-таки мы устояли, выдержали, поднялись. И это во сто крат убедительнее показывает колоссальную духовную мощь нашего народа, чем стыдливое замалчивание потерь.

Очень мало мы знаем о людях, добывавших победу. Многие имена незаслуженно вычеркнуты из народной памяти или дискредитированы, другие, напротив, непомерно возвеличены. То же происходило и с некоторыми операциями. Вспомним хотя бы бои за Малую землю под Новороссийском, которые в угоду Брежневу трактовались чуть ли не как более значимые, чем Сталинградская битва.

Только в последние годы в нашей печати появились материалы о массовых репрессиях, обрушившихся на армию в 1937—1938 годах, что и было одной из причин столь трагического для нас начала войны. История ее не будет полной, если не рассказать о судах над командирами и расстрелах, продолжавшихся и в начале войны, о штрафных батальонах, о трагической судьбе военнопленных, которые после побега или освобождения из гитлеровских лагерей зачастую попадали в сталинские.

Необходимо по-новому взглянуть на роль союзников. В нашей историографии говорилось в основном в таком духе, что они постоянно пытались помешать планам советского командования, преследовали свои эгоистические интересы, вынашивали какие-то тайные замыслы. Да, интересы у каждого были свои. Но главный был общий: одолеть фашизм. Без сомнения, СССР внес решающий вклад в победу над гитлеровской Германией. Но нельзя отрицать ту большую помощь, какую оказали ему союзники: поставками техники, материалов, продовольствия. Нельзя не признать их существенную роль в разгроме милитаристской Японии, вообще в победе антигитлеровской коалиции.

— *Вы говорите, что решающий вклад СССР в победу над Германией — факт бесспорный. Но в западной историографии и сейчас встречаются утверждения, что исход войны решился на втором фронте.*

— Да, такая точка зрения существует. Однако могу сказать со всей ответственностью, что никто из серьезных западных историков ее не разделяет. Истоки этого давнего спора — во временах «холодной войны», когда каждая из сторон абсолютизировала свою точку зрения. Причем в искажение реальной картины внесли больший вклад скорее политики, чем историки.

А истина — я хотел бы особо подчеркнуть — такова, что в военные годы государства с разным социальным строем все-таки сумели перешагнуть через взаимные предубеждения и объединиться в антигитлеровскую коалицию. В этом вижу в ней дальние истоки сегодняшнего нового политического мышления.

— *Кто авторы будущего многотомника, как идет работа над ним?*

— В главной редакционной коллегии без малого тридцать академиков, членов-корреспондентов АН СССР, докторов наук. К участию непосредственно в подготовке нового издания мы пригласили большое число ученых. Со структурой нового издания редколлегия познакомила все компетентные научные организации, получила от них множество замечаний. По каждому тому решено проводить совещания с широким привлечением научной общественности, а по всем крупным, сложным проблемам — «круглые столы», семинары. Словом, обстановка не келейная.

— *После завершения предыдущего издания прошло не так уж много времени. Еще довольно молода и гласность, не все ранее закрытые материалы еще по-настоящему изучены. Не будет ли новое издание поспешным, не кроется ли тут опасность новых конъюнктурных искажений?*

— Нет, такую возможность я исключаю. Проблема есть, и она в другом: некоторые события и явления, особенно в предвоенные годы и начальный период войны, нельзя оценивать однозначно.

Даже среди соавторов мнения зачастую полярны и стремительно меняются. Фундаментальный труд в такой ситуации, когда взгляды не устоялись, действительно может получиться противоречивым. Но мы постараемся познакомить читателя с разными оценками и версиями, если они существуют.

**Беседу вел Борис ЛАБУТИН.**

## ПРОБЛЕМЫ И СУЖДЕНИЯ

# КАПИТАЛИЗМ? СОЦИАЛИЗМ? ВОЗМОЖЕН ЛИ ТРЕТИЙ ПУТЬ?

Выход из любого тупика лежит у входа, который завел в него. Разумеется, каждое сравнение страдает неточностью. Но то, что программы сил, свершивших и вершащих революцию в странах Восточной Европы, как бы возрождают процесс их народно-демократического развития, прерванный в конце 40-х годов, достаточно очевидно. Очевидно и то, что палитра и характер политических концепций и движущих сил этих переходных тенденций настолько разнообразны, что сам собой возникает вопрос: шаг вперед или назад мы делаем?

Задавая его, часто имеют в виду не столько конечную цель (она вроде бы ясна — жить лучше), сколько методы ее достижения и... название того строя, к которому идет движение.

Существует позиция, подвергающая сомнению верность выбранного ныне государствами Восточной Европы направления в целом

Но разве это порядок, когда человек отчужден от власти и результатов собственного труда?

Кроме того, по Марксу, переход от одной стадии развития общества к другой основан на более высокой производительности труда. Но разве то, что до недавнего времени называлось у нас социализмом, явилось результатом такого перехода? И верно ли в таком случае сетовать на антипрогрессивность проводимых преобразований, возвращающих нас якобы к «капиталистическим руинам истории»?

С одной стороны, если мы признаем рынок и свободную конкуренцию, частную собственность и предпринимательство, то в сознании общества это ассоциируется с капитализмом. В то же время строй эффективного хозяйства и истинного народовластия не может не быть социалистичным по своей сути. Значит ли это, что смешение возможно?

и считающая его отступлением на рубежи капитализма. Другие, утверждающие, что происходящее сегодня в «братских» странах — действительно путь к капитализму, откровенно именно к капитализму и призывают.

Им противостоит точка зрения тех, кто считает процесс реформ движением к новому облику социализма — гуманному, с «человеческим лицом», к строю, в рамках которого реален союз рыночной экономики и государства, распределяющего национальный доход с максимальным учетом требований социальной справедливости. Наконец, есть аргументы и у тех, кто вовсе не приемлет оперирование категориями «измов».

Но уникальность ситуации состоит в том, что суть реформ — восстановление в правах смешанной экономики, основанной на равноправии всех видов собственности, воссоздание гражданского общества с его плюрализмом мнений, многопартийностью, формирование правового государства и т. д. — лейтмотив программ почти всех партий, движений и коалиций восточноевропейских стран. Это декларируют демократы и социалисты, социал демократы и партии христианского толка, это поддерживают радикалы и консерваторы.

— И все же те, кто утверждает, что сегодня Восточная Европа движется назад,— говорит доктор исторических наук М. Мунтян,— видимо, полагают, что мы действительно построили самый прогрессивный в мире строй.

С другой стороны, понимая под конвергенцией экспансию, скажем, капитализма в социализм, мы должны были бы, строго говоря, признать антисоциалистический характер революций в Восточной Европе. Но ведь на самом деле они были антитоталитарными, и их нельзя трактовать как сдвиг вправо.

Речь идет о **народных** революциях, отказывающих в кредите доверия сталинистским и неосталинистским моделям общества. Моделям, стержнем которых являлось всевластие коммунистических партий, характерной чертой — монопольная идеология, сущностью — всеобщее огосударствление личности.

Речь идет о революциях, восстанавливающих демократию как естественную среду, благоприятствующую общественному прогрессу, возвращающих на практике обществу гуманистические идеалы.

Главное не в том, как будет называться общественная и государственная формула, к которой мы придем. И не в том, чтобы осложнить предстоящий путь конфронтационной перепалкой по этому поводу, чему сейчас немало примеров. С этой точки зрения важнее третий путь — отказ от ярлыков, призыв к осмысленности действий, вполне разумный компромисс на перспективу и возврат к общечеловеческим ценностям на уровне нового мышления.

**Валерий МАРТЬЯНОВ.** (АПН).

## ВЕКТОР ВРЕМЕНИ

# ВТОРОЕ ОБРЕТЕНИЕ РОДИНЫ

В Адыгее, одной из автономных областей Российской Федерации, создано областное отделение Советского общества по культурным связям с соотечественниками за рубежом — общество «Родина». Его учредителями стали творческие союзы, промышленные предприятия, колхозы, совхозы, учебные заведения, общественные организации.

Как это ни покажется парадоксальным, но за рубежом адыгов живет больше, чем на исконной земле предков,— два миллиона человек, хотя адыгейская эмиграция сформировалась задолго до Октябрьской революции — в результате кавказской войны, во второй половине прошлого века. Довольно компактна география адыгейской диаспоры — это прежде всего Турция, Сирия, Иордания, но колонии адыгов есть и в США, ФРГ, Югославии.

Идея создания общества «Родина» не нова, но лишь во времена перестройки возникла реальная возможность для ее практической реализации. Этому в немалой степени способствовало одно из положений платформы КПСС по национальному вопросу, в котором говорится: «Для развития контактов национальных меньшинств с гражданами других государств, с которыми их объединяет общее этническое происхождение или культурное наследие, предусмотреть в законодательстве право национальных культурных центров, общественных организаций поддерживать — как через Союз советских обществ дружбы и культурной связи с зарубежными странами, так и непосредственно — культурные связи с аналогичными культурно-просветительными организациями этих государств».

За годы перестройки связи адыгов с их соотечественниками, проживающими за рубежом, заметно расширились. Создаются предпосылки для взаимовыгодных контактов и сотрудничества, расширения культурного обмена. В ближайших планах общества — оказание практической помощи адыгам, живущим за рубежом, в сохранении языковой культуры. В частности, в колонии, где есть школы с преподаванием на родном языке, отправляются буквари, методическая литература, книги адыгейских писателей, альманах «Дружба», газета «Социалистическая Адыгея». На более отдаленную перспективу намечена подготовка учителей адыгейского языка и направление их на преподавательскую работу за рубеж.

Планы работы вновь созданного общества весьма обширны. В них и установление прямых побратимских связей между отдельными аулами и колониями соотечественников за рубежом, и организация регулярных гастрольных поездок творческих коллективов, таких, как Адыгейский драматический театр, государственный ансамбль танца «Адыгея», и развитие взаимных связей между представителями научной общественности.

Работа общества «Родина», конечно, не односторонний процесс. Жизнь на чужбине, в чужой языковой среде заставляет адыгов бережно относиться к культуре, обрядам, ко всему, что определяет этническую сущность народа. По утверждению специалистов, побывавших в адыгейских колониях, эмигранты лучше сохранили многие песни, сказания, обычаи, поэтому активисты общества «Родина» организуют фольклорные и этнические экспедиции.

И еще об одном направлении его работы: в своем обращении, принятом на учредительной конференции, Адыгейское отделение общества «Родина» призвало содействовать в возвращении на землю предков произведений культуры и искусства, находящихся за рубежом.

**Александр СОКОЛОВ.**

## КАМПАЗІТАР В. КУЗНЯЦОЎ: «МОДА І СУР'ЁЗНАЯ МУЗЫКА НЕСУМЯШЧАЛЬНЫЯ»

# БЫЦЬ ПАЧУТЫМ...

**Музыка маладога кампазітара Вячаслава Кузняцова арганічна ўпісалася ў панараму творчасці сучасных беларускіх аўтараў. Аматарам добра вядомы яго сімфанічныя, камерныя, тэатральныя творы, п'есы для аркестра народных інструментаў. Але сёння людзей цікавіць не толькі тое, што робіць той ці іншы мастак, пісьменнік ці музыкант, але і яго жыццёвая пазіцыя, меркаванне аб набалелых праблемах. Журналіст Н. ЗЛАТКОЎСКАЯ гутарыць з В. КУЗНЯЦОВЫМ.**

*— Скажыце, Вячаслаў, што для вас значыць быць сучасным у мастацтве? Ці існуе ў сур'ёзнай музыцы такая з'ява, як мода?*

— Быць сучасным у мастацтве не значыць вынаходзіць нешта зусім новае, незвычайнае. Усе тэхнічныя навінкі прыдуманы даўным-даўно. У музыцы ўскладненне музычнай мовы знешнімі сродкамі — гэта тупік. Тут цяжка чым-небудзь здзівіць, тым больш праявіць індывідуальнасць. Многія лічаць, што быць сучасным — значыць неадкладна адгукацца на падзеі жыцця. Па-мойму, сур'ёзная музыка не павінна імкнуцца да публіцыстычнасці. У жыцці, якое хутка мяняецца, месца сур'ёзнай музыкі — у сферы духоўнай, а не прыкладной. Сучаснасць — паняцце не часавае. Духоўнасць — вось што неабходна як кампазітару, так і яго твору. Паглыбленне ў чалавечую душу.

Вядома, патрэбна і прыкладная, лёгкая музыка. Але гэта, словамі С. Пракоф'ева, — іншая прафесія. І пра яе гутарка асобная. Дарэчы, у некаторых краінах кампазітары-песеннікі маюць свой Саюз.

Што ж тычыцца моды і сур'ёзнай музыкі, то яны несумяшчальныя.

*— Да якога музычнага напрамку: «славянафілаў» ці «заходнікаў» вы сябе аднеслі б?*

— Апошнім часам у друку гэтыя паняцці набылі вядомы палітычны сэнс. Лічу, што музыка павінна мець нацыянальную прыналежнасць, але не вонкавую, так званы «мясцовы каларыт», а глыбінную. Лягчэй за ўсё ўзяць беларускую народную тэму і зрабіць на яе аснове музычны твор. Гатова беларуская музыка? Ды не! Выйшаў твор на беларускую тэму. І такіх вельмі многа, калі сапраўдная нацыянальная культура замяняецца яе знешнім праяўленнем. Гэта псеўдамастацтва, таму што ў ім вынішчана народная душа. Для мяне адна «жніўная» палескіх бабулек даражэйшая за сотні падобных опусаў.

У гэтым сэнсе цікавы прыклад я прачытаў у аргенцінскага пісьменніка Борхеса. У Каране, кнізе выключна арабскай, няма ніводнага ўпамінання пра вярблюдаў. Для Магамета яны — частка штодзённай рэчаіснасці. У адрозненне ад яго, фальсіфікатар перш за ўсё «выставіць» вярблюда і нават пачне праганяць іх караваны праз кожную старонку. А можна ж заставацца арабам і не седзячы на вярблюдзе. Не трэба нагрувашчваць «мясцовы каларыт» і біць сябе ў грудзі, называючыся нацыянальным творцам.

Імкнуся праз спасціжэнне глыбока нацыянальнага выказаць агульначалавечае. І наш беларускі фальклор для гэтага — невычэрпная крыніца.

*— Цяпер у рэспубліцы моладзь праяўляе вялікую цікавасць да сваёй мовы, культуры. Ці магчыма падобнае адраджэнне традыцыйнай музычнай культуры беларускага народа, ці рок канчаткова паглыне ўсё?*

— Чалавек нарэшце пачынае разумець, што ён — носьбіт шматвяковай культуры свайго народа. Адраджэнне ідзе. Але сітуацыя настолькі складаная, што гаварыць аб нейкім пераломе ў свядомасці людзей пакуль рана. Мова, традыцыі, культура для большасці — гэта абстрактныя рэчы.

Рок... Я лічу, што тут усё ж мае сэнс гаварыць пра так званую масавую культуру, якая захапіла практычна ўвесь эфір. А зусім жа нядаўна гэты тэрмін прымяняўся выключна ў адносінах да Захаду. Масавая культура навалілася на чалавецтва.

Як супрацьстаяць гэтаму? Забараніць? Пераарыентаваць на класіку? Тысячы варыянтаў, ідэй, меркаванняў. Я думаю, што мараль — лякарства ад усіх бед. Ад яе мы занадта доўга адмаўляліся. Амаральнае жыццё — амаральная культура. Што ж мы пакінем нашчадкам?

*— Адарвацца ад мітусні, задумацца, зазірнуць у сябе дапамагае сур'ёзная музыка. Як далучыць да яе людзей? Уявіце, што ў нашу гутарку ўключыўся паклоннік «рок[illegible]»...*

— Скажы [illegible] якую музыку ты слухаеш, і я скажу, хто ты. Разуменне сур'ёзнай музыкі — вышэйшае праяўленне інтэлекту. Гэта не адпачынак. Праца розуму. У масавым мастацтве — арыентац[illegible]а фізіялогію чалавека. А [illegible]чныя ідэі з агульным паваротам моладзі да сімфоніі, оперы — абсурдныя. Філармонія — філіял стадыёна «Дынама»? Святаслаў Рыхтэр перад стотысячнай аўдыторыяй 13—15-гадовых?! Формула «адзін як усе, і ўсе як адзін» несумяшчальная з установкай на сур'ёзнае мастацтва. Не трэба нікога сілком цягнуць у філармонію.

Некаторыя лічаць, што далучэнне да сімфанічнага мастацтва неабходна ажыццяўляць шляхам своеасаблівай рэкламы — аблегчаных перакладанняў класікі для лепшага яе ўспрыняцця. Скрыжаваць сур'ёзнае з папулярна-масавым. Бязглуздзіца! Музычная парнаграфія. Сапраўднае мастацтва — паштучная вытворчасць і спажыванне. Яно, хоць нялёгка гэта прызнаць, заўсёды застанецца «элітарным». І не варта яго апускаць да ўзроўню стадыёна. Няхай кожны індывідуальна прыйдзе да яго, як прыходзяць да Талстога, Дастаеўскага, Бібліі.

*— Саюз кампазітараў нашай рэспублікі аб'ядноўвае значныя творчыя сілы. І ўсё ж даводзіцца чуць, што творы беларускіх музыкантаў у сур'ёзных жанрах параўнальна рэдка гучаць на эстрадзе, а ўжо знайсці іх у праграмах прыезджага гастралёра і зусім немагчыма. У чым прычына? Чаму мала нацыянальных опер і балетаў у рэпертуары Дзяржаўнага акадэмічнага вялікага тэатра БССР?*

— Музыкі напісана многа. І колькасць яе працягвае расці. Спісаны горы нотнай паперы. На сённяшні дзень у Саюзе кампазітараў Беларусі — 85 членаў. З іх каля чвэрці — музыказнаўцы. Сур'ёзнай музыкай займаецца адна трэцяя частка.

Чаму мы не папулярныя за межамі рэспублікі? Дзве прычыны. Першая: таленавітых творцаў не густа. Другая: вельмі слабая прапаганда беларускай музыкі. Варымся ў сваім саку.

Што тычыцца ДАБТа... Опернаму нявыгадна ставіць беларускія творы. Усе хочуць «бліснуць» на вядомым класічным матэрыяле. Дырыжор імкнецца паказаць сябе, балетмайстар — таксама, не гаворачы ўжо пра мастакоў, салістаў і г. д. А кампазітар марыць толькі пра адно — быць пачутым. Як сумясціць усе спадзяванні ў адным творы? Опера, балет — вельмі дарагія, часта незкупляемыя жанры мастацтва.

Адзіна правільнае было б, на мой погляд, рашэнне — адкрыць камерны музычны тэатр. Невялікая сцэна, маленькі аркестр, мабільная трупа, мінімум дэкарацый. Адным словам — дасягальны (у параўнанні з ДАБТам). Вось дзе маглі б загучаць творы беларускіх аўтараў. Опер і балетаў дастаткова, асабліва ў маладых

*— Скажыце, Вячаслаў, СК БССР — творчы маналіт ці ўнутры яго ёсць розныя кампазітарскія плыні, напрамкі, групоўкі?*

— Маналіт — гэта якраз тэрмін застойнага перыяду. Нешта накшталт: «Усе кампазітары ў адзіным парыве...»

Чым больш кампазітараў са сваімі непадобнымі поглядамі, чым больш спрэчак, пошукаў, нетрадыцыйнасці, тым творча багацейшым будзе ўвесь саюз.

А плыняў у саюзе столькі ж, колькі і членаў, не менш. Але справа не ў гэтым.

Творца перш за ўсё павінен быць асобай. А асоба, на жаль, — з'ява рэдкая.

*— За гады застою дух бюракратызму захапіў многія грамадскія арганізацыі. Ці ўдалося ўстаяць Саюзу кампазітараў БССР? У якой ступені ён дапамагае вам у творчасці?*

— Апошнім часам я з задавальненнем заўважаю, што ў саюзе пры складанні праграм, пры абмеркаваннях, рэкамендацыях новых твораў упор робіцца на іх якасці, а не на становішча, якое займае кампазітар. Ды і музычныя крытыкі сталі смялейшымі. Адзіным крытэрыем творчай асобы ў нас павінна быць музыка. Характэрны вопыт філармоніі з яе штогадовым фестывалем «Мінская вясна», дзе гучыць толькі новая музыка. У асноўным — беларуская. Тут даецца перавага маладым, не абавязкова членам саюза. Гэта натуральна: яны больш пішуць, яны больш эмацыянальныя.

Член саюза мае магчымасць выконвацца, выдавацца, запісвацца на радыё, працаваць у Дамах творчасці, мець дадатковую жылплошчу (чыста тэарэтычна). Ну, а што тычыцца творчасці — кожны спадзяецца толькі на сябе, на ступень сваёй таленавітасці.

*— Якое фінансавае становішча кампазітара, калі ён не належыць да сферы шоу-бізнеса і поп-музыкі, а піша сімфоніі і санаты?*

— Калі кампазітар маёй спецыялізацыі захоча жыць выключна на ганарары, ён рызыкуе памерці з голаду. Раструмачу. Нават пры самым спрыяльным збегу акалічнасцей — геніяльнасць, натхненне, працаздольнасць, рухомасць закупачных і фінансавых службаў — з моманту напісання першай ноты да атрымання «сумы прописам» праходзяць гады. Бывае, праўда, аванс у выпадку дзяржзаказу... І вось атрымае аўтар свае тры тысячы (бывае, гавораць, і пяць) за сімфонію, аддасць даўгі, купіць жонцы паліто і — зноў за работу.

Таму «чыстых» сімфаністаў я яшчэ не сустракаў. Альбо кампазітар, як і я, — педагог, альбо паралельна піша прыкладную музыку.

*— Што служыць вам імпульсам творчасці?*

— Творчы працэс — рэч даволі далікатная, гаварыў Стравінскі. Немагчыма назіраць звонку сапраўднае развіццё гэтага працэсу. Натхненне, імпульс, уяўленне — паняцці хі[illegible]я, іх цяжка ўлавіць. У шы[illegible]ім разуменні імпульс для творчасці — само жыццё з яго ўздымамі, спадамі, стрэсамі, кантрастамі. У мяне ідзе доўгае, хваравітае, пакутлівае абдумванне, пошукі ідэй, а затым — хуткае тэхнічнае ўвасабленне.

*— Што змянілася ў жыцці вашым і саюза пасля яго нядаўняга чарговага з'езда?*

— Былі прыняты вельмі важныя прынцыповыя рашэнні. Саюз змяніў не толькі сваю назву: раней СК БССР, цяпер — СК Беларусі, але і набыў самастойнасць. Да гэтага мы былі філіялам СК СССР. Прыняты новы статут, ён адлюстроўвае суверэнітэт нашага саюза, які працуе ў новых умовах. Выкінута многа канцыляршчыны, непатрэбных пунктаў. Замест ліквідаванага прэзідыума створаны рабочы орган праўлення СК — сакратарыят. Прыкметна амаладзілася і праўленне СК, а новыя людзі — гэта свежыя думкі, энергія, аптымізм. Хаця вырашаць трэба будзе мноства праблем. У тым ліку і мне, як выбранаму ўпершыню ў сакратарыят СК. Няма свайго музычнага выдавецтва, сваёй фірмы гуказапісу, свайго друкаванага органа. Няма прамых сувязей з замежнымі калегамі, хаця БССР — член ААН і ЮНЕСКА. Але самае галоўнае — вельмі мала твораў сусветнага ўзроўню.

**Ніна ЗЛАТКОЎСКАЯ.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Васіль ЗУЁНАК**

***

**Сцежка ласёў капытная,**
**Трубных рыканняў гукі.**
**З захаду ноч першабытная**
**Небу працягвае рукі.**

**А на рагах ласіных,**
**Як на антэнах сучаснасці, —**
**Ажно трасуцца асіны! —**
**Цэзій чарнобыльскі шастае.**

**Агонь у целе бушуе**
**Атамнаю агоніяй**
**І ў белакроўным шуме**
**Гоніць лася пагоняю.**

**І ўжо не бачыць дарогі,**
**Прэ напралом сахаты —**
**Рэактар чатырохногі,**
**Энергаблок рагаты...**

**Зляканыя крышыць дрэвы,**
**Паветра ўдыхае прагна,**
**І свеціцца падчарэвак**
**Радыяцыйнаю багнай.**

**Нарэшце знямогла асядзе,**
**Крутыя асунуцца рогі.**
**І толькі пагоня ў паглядзе**
**Ды тванню спутаны ногі...**

**І зоркі ў небе вячэрнім**
**На Млечным Шляху раяцца,**
**Як нашы бясконцыя чэргі —**
**Стаячыя дэманстрацыі.**

***

**Над жытам дамоўку нясём.**
**Да бога вузее дарога...**
**З сабою не возьмеш нічога**
**І толькі пакінеш — усё.**

**І мне падрахунак асобы**
**Не зведаць... Ды маю заклён:**
**Забраць бы з сабою**
**Чарнобыль**
**І геназнішчальны фон...**

***

**Калі прыйшлі на страшны суд**
**І мёртвых душы і жывых,**
**Адной — тварца людскіх**
**пакут —**
**Злачынна не было між іх.**

**Як ні стараліся ганцы**
**На ўвесь эфір, на ўвесь**
**сусвет —**
**Анёлы, вышуку спяцы, —**
**Вусаты множылі партрэт —**
**Нідзе не адшукалі след.**

**І раптам — злёту, на парог,**
**Адзін зваліўся, ледзь жывы,**
**І ўсе пачулі, чуў і бог:**
**— Не там яго шукалі вы!..**

**І тут жа спаленым крылом:**
**— Яго знайшоў я — паказаў:**
**— Ён на зямлі!.. «Гаспадаром**
**Быў, ёсць і буду!» — мне**
**сказаў...**

**Юрка ГОЛУБ**

**...Падкідаю галлё ў касцёр,**
**І агонь, галодны, глыдае.**
**Памяць нашу ці хто расцёр!**
**Заплыла, як лоем, гадамі!**

**Ала КАНАПЕЛЬКА**

***

**Альсы пераораны,**
**раскарчаваны:**
**Прайшоў — не павернеш —**
**прагрэс.**
**Апошнія тут мы, Соні, Іваны,**
**Падсочаны бор і падсечаны**
**лес.**

**А дзеці, як вырай, далёка**
**ў адлёце:**
**— Сюды не вяртайцеся,**
**едзьце за свет!**
**О не, не па ўласнай і добрай**
**ахвоце,**
**Нібыта праклён, горкі ваш**
**запавет.**

**Такога маўчання шчэ неба**
**не чула,**
**Такога злачынства не зналі**
**вякі...**
**Па мёртвай зямлі**
**мерным коціцца гулам**
**Век новы —**
**каб ведаць — які!**
**Крычаць пералётныя птахі.**
**А маміны астры — нібы**
**Млечны Шлях.**
**І падае крык**
**На лугі, на лясы і на дахі,**
**І вырай праз неба чарнее,**
**як шляк!**

## МАСТАКІ Б'ЮЦЬ У ЗВАНЫ

Сапраўднай трывогай за нашу зямлю, родную прыроду, увесь навакольны свет прасякнуты больш за сорак карцін, прадстаўленых на рэспубліканскай выстаўцы «Мастак і экалогія», якая адкрылася ў Магілёве.

Горка і балюча глядзець на зраненыя, засыхаючыя дрэвы, задымленыя заводскія мікрараёны, пакінутыя дамы мёртвай чарнобыльскай зоны. Але ўсё гэта мастакі Б. Аракчэеў, Ф. Кісялёў, М. Чэпік, І. Бархаткоў, В. Барабанцаў і іншыя ўбачылі ў нашым рэальным жыцці. Як, зрэшты, і краявіды някідкай беларускай прыроды. Кантраст у пабудове кампазіцыі выстаўкі не выпадковы. Ён узмацняе эмацыянальнае ўздзеянне работ, дапамагае зразумець, што мы ўжо страцілі і чаго можам пазбавіцца, калі застанёмся абыякавымі да лёсу роднай зямлі.

Не выпадкова выбраны і адрас правядзення выстаўкі. Магілёў — адзін з самых забруджаных гарадоў рэспублікі. І вельмі важна, каб праблемы экалогіі былі зразумелыя кожнаму яго жыхару.

*СТАРОНКІ МІНУЛАГА*

# ЯК БУДАВАЎСЯ МІНСКІ ТЭАТР

У НАШАЙ сталіцы захаваўся, бадай што, адзіны будынак культурнага прызначэння, які дажыў да свайго стагоддзя. Гэта гарадскі тэатр (зараз Беларускі дзяржаўны тэатр імя Янкі Купалы). Здзіўляе, што яго не знішчылі, не перабудавалі да непазнавальнасці. Здзіўляе і тое, што горад, які ў той час ледзь зводзіў канцы з канцамі, змог пабудаваць яго. Не так ужо часта такое здараецца і ў наш час.

Дык давайце паглядзім, як усё гэта адбывалася. Па-першае, неабходна ўявіць сабе, што вострая патрэба ў тэатры ўзнікла не пазней 40-х гадоў XIX стагоддзя. К гэтаму часу Мінск ужо меў даволі прыкметную праслойку заможных і адукаваных людзей, якія маглі і хацелі быць гледачамі тэатральных відовішчаў. У 1846 годзе ў Мінску ўзнікла артыстычная трупа на чале з Вяржбіцкім. Гарадское ўпраўленне пачало штогод адпускаць на яе ўтрыманне па 2 тысячы рублёў. Па загаду губернатара была створана спецыяльная камісія, якая ажыццяўляла пастаянны нагляд за тэатральнай дзейнасцю ў Мінску. Тэатр стаў неад'емнай часткай культурнага жыцця горада. Тут з'явілася мноства антрэпрэнёраў і перасоўных труп. Яны выступалі ў ратушным тэатры, у зале Мінскага дваранскага сходу, у летнім тэатры гарадскога парку, у прыватных тэатральных залах.

Гарадскі тэатр знаходзіўся на Саборнай плошчы. Гэты малапрыкметны домік стаяў (пакуль яго не разбурылі ў 1979 годзе гарадскія ўлады) на рагу сучасных вуліц Леніна і Інтэрнацыянальнай. У свой час будынак належаў дваранíну Яну Байкову, які прыстасаваў яго ў 1829 годзе пад тэатр. Наўрад ці можна было б назваць яго зручным ці ўтульным. Глядзельная зала месцілася на другім паверсе, усюды цесната. Таму і спектаклі там даваліся вельмі нерэгулярна, з вялікімі перапынкамі. А ў 1884 годзе гарадскі тэатр і ўвогуле згарэў. Адсутнасць пастаяннага памяшкання стварала шмат цяжкасцей з захоўваннем дэкарацый, касцюмаў, рэквізіту — увогуле стрымлівала тэатральную дзейнасць. А яна пасля падаўлення нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 года становіцца адным з найважнейшых сродкаў русіфікацыі беларускага краю. Таму мінскі губернатар князь Трубяцкой, відаць, і выступіў ініцыятарам будаўніцтва новага будынка, спецыяльна прызначанага для тэатра. Праўда, нельга адкідаць і добрыя намеры адукаванага вяльможы. Ён разумеў, што тэатр мог быць «такім жа сродкам духоўнага выхавання, як і навучальныя ўстановы».

Але цікава іншае — як паставілася да губернатарскай ідэі грамадскасць Мінска. За будаўніцтва новага тэатра ўсе члены гарадской думы на сваім пасяджэнні 18 жніўня 1887 года выказаліся аднагалосна. Была створана спецыяльная камісія. Сваю дзейнасць яна пачала зборам сродкаў. З гарадскога бюджэту ўдалося атрымаць пяць тысяч рублёў. Хадайніцтва аб урадавай субсідыі не дало вынікаў. У горада заставалася адзінае выйсце — заклік да ахвяраванняў. Ён быў пачуты. Так, дзякуючы сумесным намаганням свядомых і зацікаўленых мінчан, будаўніцтва тэатра стала магчымым.

Закладка фундамента адбылася 26 чэрвеня 1888 года. Пасля набажэнства, якое выконвалася ў спецыяльна ўзведзеным адкрытым павільёне, наступіў урачысты момант. Вялікі князь Уладзімір Аляксандравіч і вялікая княгіня Марыя Паўлаўна, якія ў той час знаходзіліся ў Мінску, кінулі на месцы закладкі некалькі залатых манет і паклалі на іх па цагліне.

Цырымонія хоць і афіцыйная, парадная, але важная ў лёсе мінскага тэатра. Хто ведае, колькі б яшчэ цягнуліся спрэчкі паміж горадам і архіепіскапам мінскім Варлаамам аб тым, дзе лепей пачаць будаўніцтва. Гарадское ўпраўленне настойвала на Аляксандраўскім скверы. Галава царквы рашуча выступаў супраць, бо не хацеў суседства капліцы і архіерэйскага дома з такой установай, як тэатр. І, відаць, толькі візіт яснавяльможных асоб вымусіў царкоўнікаў уступіць намерам гараджан.

Архітэктарамі былі прызначаны К. Увядзенскі і К. Казлоўскі. І па меры таго, як узнімаліся сцены, станавілася відавочным, што сабраных да пачатку будаўніцтва 25 тысяч не хопіць. У 1890 годзе горад адважыўся на даволі рашучы крок, які не ўхваляўся ўладамі. Ён дабіўся права на продаж свайго лесу ва ўрочышчы Міхалянка. Усе 45 658 рублёў, што выплаціў купец Рогаў, пайшлі на будаўніцтва. Акрамя гэтай сумы, былі яшчэ і гарадскія субсідыі, і грашовыя ахвяраванні мінчан. Усяго тэатр каштаваў гораду 102 тысячы рублёў.

Імкнучыся хутчэй акупіць панесеныя страты, тэатральная камісія гарадскога ўпраўлення яшчэ да завяршэння будаўніцтва паспяшалася ўстанавіць даволі высокія цэны на білеты. У партэры яны даходзілі да 3 рублёў 20 капеек. Самыя нізкія былі на галёрцы — 40-50 капеек (столькі атрымліваў чорнарабочы за дзень працы). Поўны збор пры такім раскладзе складаў 548 рублёў 95 капеек. І толькі на ранішнія прадстаўленні білеты каштавалі менш.

Адкрыўся тэатр 5 чэрвеня 1890 года аматарскім спектаклем «Сфінкс» О. Фелье. Гледачы ўбачылі залу з багатай лепкай і размалёўкай. Тут віселі партрэты А. Пушкіна, М. Гогаля, М. Глінкі, А. Астроўскага. Партэр умяшчаў 246 крэслаў, галерэя — 170, амфітэатр — 12. Мелася 10 ложаў першага яруса, 20 — другога і 4 — трэцяга. Бакавыя месцы былі разлічаны на 48 чалавек. Усяго — 550 месцаў. Пазней іх колькасць павялічылася да 700. Асабліва прываблівала сцэна. Заслону для яе выканалі маладыя мастакі-дэкаратары Ю. Рэйнберг і Г. Веніг. Па баках стаялі калоны з амурамі. За імі віселі габелены. Ляпную арку над сцэнай увенчваў герб Мінскай губерні. Цікавая дэталь: падлога ў зале падымалася да ўзроўню сцэны і такім чынам ператваралася ў велізарную пляцоўку для танцаў.

На першыя два гады тэатр быў здадзены ў наём вядомаму віленскаму антрэпрэнёру А. Картававу. Ён стварыў для Мінска і Вільні драматычную і оперную трупы з даволі таленавітых акцёраў. Першы тэатральны сезон у Мінску адкрыўся 9 верасня 1890 года спектаклем «Злоба дня» М. Пацехіна. З таго часу і пачаў сваё жыццё мінскі тэатр.

**Захар ШЫБЕКА,**
**Соня ШЫБЕКА.**

---

*ПА СКАРЫНІНСКАЙ ПРАГРАМЕ*

# БЕЛАРУСЬ РЫХТУЕЦЦА ДА ЮБІЛЕЮ

У 1990 годзе па рашэнню ЮНЕСКА адзначаецца 500-годдзе з дня нараджэння Францыска Скарыны. Рыхтавацца да гэтай даты мы пачалі загадзя. Яшчэ ў 1981 годзе каардынацыйны савет пры прэзідыуме Акадэміі навук БССР прыняў комплексную «Скарынінскую праграму» разнастайных навуковых, культурных і грамадска-палітычных мерапрыемстваў, прысвечаных ушанаванню памяці вялікага беларускага асветніка. Урад рэспублікі прыняў пастанову, у якой вызначаецца парадак падрыхтоўкі і святкавання юбілею падзеі. На радзіме Скарыны мяркуецца правесці навуковыя канферэнцыі, чытанні. Некаторыя з іх ужо адбыліся ў маі, у час Дзён славянскага пісьменства, многія пройдуць у верасні, на свяце Скарыны. Ёсць рашэнне аб устанаўленні ў Мінску помніка славутаму суайчынніку з Полацка, аб выпуску юбілейных медаля і манеты, аб правядзенні спецыяльных кніжных і мастацкіх выставак. А таксама аб выданні серыі манаграфій і кніг пра першадрукара.

Нядаўна мы сталі сведкамі выдання унікальнай персанальнай энцыклапедыі «Францыск Скарына і яго час». Яна асвятляе жыццё і творчасць усходнеславянскага і беларускага першадрукара, вучонага, асветніка і пісьменніка эпохі Адраджэння і з'яўляецца выдатным укладам у развіццё скарыназнаўства ў краіне.

Убачылі свет зборнікі дакументаў і матэрыялаў «Францыск Скарына» і «Спадчына Скарыны», падрыхтаваныя Інстытутам літаратуры Акадэміі навук БССР. У першым упершыню сабраны і пракаменціраваны дакументы, прысвечаныя выдатнаму дзеячу славянскай культуры, а таксама матэрыялы, звязаныя з яго імем. Другі складаецца з дакладаў, прачытаных у час першых Скарынінскіх чытанняў, якія адбыліся ў Мінску ў 1986 годзе.

Прыгожы «Скарынінскі каляндар» выпусціла выдавецтва «Мастацкая літаратура». У ім сабраны разнастайныя матэрыялы, дакументы, выказванні першадрукара, фрагменты з даследаванняў савецкіх і замежных вучоных аб Францыску Скарыне.

У серыі «Жыццё славутых людзей» выйшла кніга Алега Лойкі «Скарына». Выдадзены камплект ілюстрацый «Гравюры Францыска Скарыны», а таксама каталог-альбом мастацкіх твораў са збору калекцыянера Анатоля Белага, дзе змешчана каля двухсот рэпрадукцый карцін аб Скарыне.

Вялікую цікавасць маюць напярэдадні святкавання юбілею шыкоўны насценны каляндар «Шляхамі Францыска Скарыны», выдадзены на беларускай, рускай, англійскай мовах, зборнік навуковых работ філосафаў, філолагаў, гісторыкаў «Францыск Скарына — беларускі гуманіст, асветнік, першадрукар».

Акрамя таго, «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» рыхтуе да выпуску факсімільнае выданне «Біблii» Францыска Скарыны. Тры фаліянты ў васемсот старонак змесцяць пасля сістэматызацыі ў кананічным парадку ўсе 23 кніжкі скарынінскіх «Біблій». Выданне такога роду першае не толькі ў рэспубліцы, але і ў краіне. Плануецца выпусціць да юбілею збор матэрыялаў, кніг, часопісных артыкулаў, прысвечаных Скарыне, выдадзеных да 1986 года, факсімільнае выданне «400-лецьце беларускага друку», якое ў свой час, у складаныя 30-я гады, было поўнасцю канфіскавана і знішчана, а яго аўтары як нацдэмы падвергліся рэпрэсіям, а таксама зборнік фотадакументаў і матэрыялаў «Спадчына Скарыны» з перакладам на сучасныя беларускую і рускую мовы.

**С. БЕЛАЯ.**

---

## ПАМЯЦІ НАРОДНАГА ПАЭТА



Вёска Ракуцёўшчына, у якой у 1911 годзе жыў і працаваў Максім Багдановіч, стала месцам правядзення свята яго паэзіі. Арганізатары—Музей Максіма Багдановіча, упраўленне культуры Маладзечанскага райвыканкома—запрасілі на яго паэтаў і кампазітараў, бардаў, шматлікія фальклорныя калектывы і ўсіх паклоннікаў лірыкі Максіма Багдановіча.

НА ЗДЫМКАХ: дом, у якім у 1911 годзе жыў і працаваў Максім Багдановіч; на сцэне народны калектыў з Маладзечна «Магістраль».

Фота А. ТАЛОЧКІ.



